# Нямецкія ўдачы ў Італіі

Неахвотна навязваў баявое знаёмства ангельскі жаўнер з нямецкім жаўнерам. Надоўга застануцца ў памяці разьвязка ля Дункеркі, Ст. Назар, Діппе. Таму ангельскае камандваньне доўга ня пробавала шчасьця ў спатканьні з нямецкімі аддзеламі.

Наступныя гады, калі ангельцы атрымалі помач ад амэрыканцаў, калі дзякуючы гнільлю маральнага кіраўніцтва італьянскай арміі, якое выявілася ў агіднай зрадзе Бадоліо, англа-амэрыканцы набралі апэтытаў да афэнзывы. Гэта і дало падставу іхняму камандваньню да перахвалкі, што яны яшчэ Каляды 1943 г. адсьвяткуюць у Рыме.

Пасьлядоўна да гэтага намеру англа-амэрыканскае камандваньне, бачачы сваю няўдачу пры франтавой афэнзыве ў паўдзённай Італіі, прадпрыняла дужа рызыкоўную акцыю высадкі ля Нэттуно. Коштам вялікага накладу людзкіх сіл ды ваеннага матар'ялу, ужо на гэты раз нямінуча хацелі яны асесьці ў Рыме.

Хутка міне тры тыдні ад пачатку англа-амэрыканскага дэсанту ля Нэттуно. За гэты час удалося ім ледзь толькі ўтрымацца на захопленых у першых днях высадкі мясцовасьцях.

Насупроць англа-амэрыканскае перавагі ў людзях і ваенным матар'яле, немцы паказалі сваю арганізаванасьць і баяздольнасьць свайго жаўнера. Гэта давяло да таго, што ў надта кароткі час сытуацыя была апанованая. Трываючая ўжо даўжэйшы час нямецкая ініцыятыва нанясла праціўнікам небывала вялікія страты. Як мы ўжо падавалі зацятыя бaі давялі да акружэньняў пaадзіночных англа-амэрыканскіх баёвых групаў, якія далі некалькі тысячаў палонных і яшчэ большую колькасьць забітых.

### Завалоданьне Апрыліяй

Як падало паведамленьне нямецкае прэсы, за дні 12 і 13 лютага немцы завалодалі горадам Апрылія, які перарэзвае дарогу на старынную Апрылійскую шасу. Пяць разоў мяняў горад сваіх валадароў. Нарэшце ў ім замацаваліся немцы.

У першы дзень атакі на горад забрана тысяча палонных, якія апынуліся вельмі здзіўленымі і ўражанымі разьмерам нямецкага ўдару. Між палоннымі аказаліся жаўнеры, каторыя некалькі дзён таму назад прымалі ўдзел у баёх ля Кассіно. Гыта паказвае на крытычнае палажэньне англа-амэрыканскага дэсанту ля Нэттуно. Вораг быў прымушаны коштам Кассінскага фронту асягнуць нейкую перавагу і ўмацаваць фронт на Нэттускім адрэзку, захістаны нямецкімі ўдарамі. Гэты манэўр паказвае веліч нямецкае ўдачы ля Апрыліі, як гэтаксама і поўнае хістаньне пазыцыі праціўніка.

Калі ўзяць пад увагу, што гэты адрэзак зьяўляецца зусім нязначным у параўнаньні з разьмерам цэлага італьянскага фронту, які абараняецца толькі часткамі нямецкіх аддзелаў, дык стане ясным, што доўга яшчэ мусяць чакаць англа-амэрыканцы на выімраны імі Рым.

Англа-амэрыканскія страты пры высадцы




ля Нэттуно асабліва балючыя. Апрача агню нямецкіх грэнадзёраў, безперапынна спаўдзельнічае лятунства, якое градам бомбаў і паветраных тарпэдаў топіць дэсанцкія параплавы з папаўненьнем. Да гэтага-ж дзейнічае нямецкая далекастрэльная артылерыя, якая сваім скуткоўным зьнішчальным агнём кідае на марское дно безьліч параплаваў ворага.

## У некалькі радкох

◆ Дэ Голь быў вымушаны прызнаць незалежнасьць Сырыі і Лівану. Ягоны прадстаўнік гэн. Катру падпісаў дагавор аб незалежнасьці гэтых краінаў.

◆ У паўдзённай Італіі за згоды англа-амэрыканцаў аднаўлена дзейнасьць усіх масонскіх лёжаў.



— Падыходзьце па чарзе! Усім па лыжцы «самастойнасьці з незалежнасьцю» падарую.

# „У нас гэтак ня кажуць"

«У нас гэтак ня кажуць!» «Я гэтага ня чуў!» Нярэдка можна пачуць гэткія заявы ад таго ці іншага «сьведамага» беларуса. Калі-б сэнс гэткіх заяваў абмяжаваўся толькі да таго, што імі даслоўна выказываецца, г. зн., што дзесьці чагосьці ня скажуць, або што хтось чаго ня чуў, дык ня былі-б яны, праўда, цікавыя, але ня былі-б і дзіўныя ці шкодныя. Але не! Іх кажуць пратэстуючы супроць таго ці іншага слова, або наагул асаблівасьці, ужыванай у беларускай літаратурнай мове. Гэтым вымагаюць, каб у літаратурнай мове ўжываліся толькі такія словы і формы, якія ёсьць у мове павету, воласьці, сяла такога «пратэстанта». Бяды яму мала, што калі-б яго паслухаць і пісаць моваю ягонага сяла, дык беларуская літаратурная мова ўсё-ж-ткі розьнілася-б ад дзесяткаў тысячаў іншых беларускіх сёлаў. З гэткім-жа самым «правам» гэныя сёлы маглі-б вымагаць, каб літаратурная мова ня розьнілася ад мовы кажнага іхнага сяла. А калі-б здаволіць іхныя вымаганьні, дык было-б гэтулькі беларускіх літаратурных моваў, колькі ў Беларусі сёлаў, ці інакш кажучы — зусім ня было-б беларускае літаратурнае мовы, бо літаратурная мова адна для ўсяго народу. Дыкжа ўласьцівай рысаю кажнае літаратурнае мовы, рысаю, бяз якой яна літаратурнай ня будзе, зьяўляецца ўжываньне яе інтэлігенцыяй дадзенага народу бяз увагі на мясцовыя асаблівасьці мовы кажнага асобнага кутка.

У кажнай мове ёсьць шмат розных народных гаворкаў, а мова літаратурная паўстае на аснове гаворкі аднае або колькіх найбліжшых, пры большым або меншым уплыве іншых гаворкаў. Таму, як і кажная, таксама і нашая літаратурная мова крышку розьніцца ад беларускіх народных гаворкаў, за выняткам тых найбліжэйшых міжсобку, на аснове якіх паўстала, дый то ня зусім чыста (бо ёсьць уплывы іншых гаворкаў).

Дык калі-б хто хацеў праверыць тую ці іншую асаблівасьць беларускай літаратурнай мовы з гледзішча згоднасьці яе з духам беларускае мовы, як цэласьці, павінен зьвярнуцца да ўсіх чыста гаворкаў народнае мовы і ў прыпадку нязгоды чагось у літаратурнай мове з усімі гаворкамі, ягоная заява аб гэтым будзе запраўды каштоўнай і з ёй павінны лічыцца, а нязгода з аднэй ці колькім гаворкамі — зьява нармальная.

# Ад нашых карэспандэнтаў

### У ЛІЦМАНШТАЦКІМ АДДЗЕЛЕ БКС

Нядаўна адбыўся тут гадавы сход сяброў мясцовага Беларускага Камітэту Самапомачы.

Старшыня БКС. сп. В. Габруковіч злажыў справаздачу з дзейнасьці Ўраду за мінулы год, з якой было відаць, што галоўным заданьнем Ўраду ў 1943 г. было згуртаваньне мясцовых беларусоў вакол БКС і пашырэньне сярод іх нацыянальна-узгадаваўчае працы.

Камітэтам былі праведзены курсы беларусаведы, бухгальтэрыі і кравецтва. Улетку чыталіся даклады з беларусазнаўства. Ізноў-жа тэатральная сэкцыя пяць п'есаў, як «Паўлінка», «Птушка шчасьця» і інш. Моладзь згуртаваная ў сваей сэкцыі, таксама шырака разгарнула культурна-асьветную працу. Значна ўзбагацілася і камітэцкая бібліятэка новазакупленымі кніжкамі.

З прачытанай старшынёю справаздачы Рэвізыйнай Камісыі вынікае, што ліцманштацкі Камітэт фінансава стаіць зусім моцна.

Агульны сход сяброў адобрыў працу Ўраду свайго Камітэту ў 1943 г., выразіў яму падзяку і давер, і ў гэтым самым складзе выбраў на 1944 год.

На заканчэньне сходу, з нагоды ўтварэньня Беларускае Цэнтральнае Рады была складзена і выслана ў Менск на імя Прэзыдэнта сп. Радаслава Астроўскага прывітальная тэлеграма.

**Азардзей.**

### У КЭНІГЗБЭРГСКІМ АДДЗЕЛЕ БКС

26. 1., у адным з прыгажэйшых заляў у Кенігзбэргу быў наладжаны вечар, на якім была зарганізована пастаноўка дзьвюх п'есаў: «Чорт і баба» і «Зьбянтэжаны Саўка». Апроч таго выступаў ужо вядомы ў Кенігзбэргу хор БКС пад кіраўніцтвам сп. Луткевіча.

Аб мастацкім узраўні пастаноўкі п'есаў і хору можа сьветчыць колькасьць прысутнікаў, якія склалі звыж 1000 чалавек.

Як нам ведама Кэнігзбэргскі Аддзел БКС падрыхтоўвае спэцыяльны вечар беларускай песьні, на які гэтаксама запрашае нашага слаўнага і дарагога сьпевака Міхася Забэйду-Суміцкага.

**Вал.**

**УЛ. КЛІШЭВІЧ**

* * *

*Арыстаху Кроту*

**Магутны Бог сьвяцільнікі разьвесіў,**
**Прыбраў зямлю ў радасныя краскі.**
**З вясёлым тварам залацісты месяц**
**Да долу кідае праменьняў ласкі.**

**І на пялёстках расьцьвілой шыпшыны**
**У пералівах яркіх чырваньню гары[illegible]**
**Як кроў на твары маладой дзяў[illegible]**
**Прамень далёкае нябёснае зары.**

**Бляск зораў неба заўжды таямнічы.**
**Вянок прыроды ў вечным харасьцьве**
**Над намі зьзяе мудрасьцю вялічы,**
**Упрыгожыўшы зямлю і навакол сусьвет.**

**І ня мінаю я з жывучымі людзьмі**
**Прыроды хараства і не прыходжу міма...**
**Гары, вянок чароўных зор над намі,**
**Ня гаснучы красой ніколі над Радзімай!**

**10 студзеня 1944 г.**

**В. КРЫЦКІ**

# Яны на беларускай зямлі

**(На матар'ялах савецкае прэсы ваеннага часу)**

Ці трэба лішні раз паўтараць, як кляў і кляне беларускі народ сваіх найбольшых ворагаў — бальшавікоў, жадаючы, каб іх «зямля не насіла», — тая беларуская зямля, да якое гэтулькі год гнялі яны, у якую ўтоптвалі, закопвалі ў масавых, яшчэ жудасьнейшых мо за Катынскія ці Віньніцкія, хоць і ня знойдзеных пакуль магілах, родная зямля, ад якое адрывалі гвалтам, гвалтам турылі ў халодныя й дзікія Сібіры й Казахстаны, Котласы й Калымы, тундры й пусткі лепшых сыноў і дачок гэтага народу?

І быў ужо час, калі здавалася, што ня будзе больш і праўда насіць на сабе гэтую пошасьць нашая сьвятая зямля, што зьдзеліся праклёны шматпакутнага народу іназаўсёды адверне ад ягонае галавы гэтую страшную плягу.

Толькі не, «пошасьць уелася ў маткузямлю», як казаў паэта, занадта да спадобы ўдаліся ёй спажыўныя сокі гэтае зямлі, каб гэтак адразу зрачыся яе, ці хоць думкі аб ёй. Думка гэтая ажыла ў галовах галавароў зараз-жа, калі толькі мінуў першы страх панічных уцёкаў пад маланкавымі ўдарамі магутнейшага сілаю зброі й духу ворага. І ў выкананьне гэтае думкі аб чульлівых «клопатах» і «апецы» над «братнім», ці можа нат «сыновым» народам пачалі зноў пакрысе паўзьці, а далей і сыпацца новыя плягі на бедную ягоную галаву, на змучаную, здратаваную ягоную зямлю...

### ЯК «ВЯЛІКІ» ДЫ «ЗАКЛІКАЎ»

**Партызаншчына** — вось найбольш агульнае, зборнае імя першага з гэтых «клопатаў» — «плягаў», першага «багаславеньня» й «багавешчаньня», ад якога пачалося сутаргавае, але настырлівае чапляньне выганянага ворага за спляжаную ім-жа нашую зямлю, упорыстае намаганьне закараніцца й загнязьдзіцца на ёй ізноў, на ўсе свае чатыры лапы.

Мала хто добра ўяўляе сабе, ад чаго пачалася ў нас і на іншых вызваляных з-пад бальшавікоў землях, гэтая, рознай слаўная цяпер на цэлы сьвет, партызаншчына, дзе быў ейны выходны пункт, першы штуршок, ад якога пачаў разгортацца ўвесь скрутак. Самі бальшавікі, зразумела, спрабуюць прадставіць гэтую справу перад цэлым сьветам так, як быццам-бы тут — сама сабою, стыхійна паўсталая ўсенародная патрыятычная вайна адзінага «савецкага» народу супроць чужаземных «захопнікаў», «гвалтаўнікоў», «акупантаў». «Галоўны махер хлусьлівае савецкай інфармацыі, калішні менскі жыд Лазоўскі гэтак і заявіў быў перад сусьветнай прэсай: «Партызанскі рух — гэта глыбака народны рух, гэта цела ад цела і кроў ад крыві савецкага народу... Партызаны — гэта савецкія патрыёты, якія абапіраюцца на ўвесь народ і ў глыбокай арганічнай сувязі з народам і чырвонай арміяй чэрпаюць свае сілы ў змаганьні супроць «гітлераўскіх бандытаў і грамілаў» («Правда», 227 — 17. 8. 1941 г. — «На чароднай прэс-канфэрэнцыі замежных карэспандэнтаў»). Але навет гэты бальшавіцкі бандыт ад інфармацыі, які навытарыўшыся рабіць із чорнага белае, із бандыта — патрыета й наадварот ды абзываць пры гэтым сваім собскім запраўдным імём свайго супрацоўніка, ня мог усё-ж да канца затаіць шыла ў мяшку із сваймі жыдоўска-інфармацыйнымі бэбахамі. Яно вылезла адтуль адразу-ж, бо нельга было адразу-ж не назваць першага й галоўнага натхняльніка завадатая «глыбока-народнага руху».

«**Партызанскі** рух, які паўстаў ад першых дзён зрадлівага нападу Нямеччыны на Савецкі Саюз, **разгарэўся зыркім полымем у сувязі з заклікам старшыні дзяржаўнага камітэту абароны І. В. Сталіна** і цяпер палыхае на ўсім прасьцягу занятых нямецкай арміяй раёнаў», — мусіў прызнацца ўжо на самым пачатку Лазоўскі. Значыцца, ня зьнізу, не ад выбуху патрыятычнага гневу абуранага народу, а высака з гары, ад іскраў з «легендарнае» люлькі «вялікага і мудрага» падпальшчыка сусьветнага пажару занялося гарэць тое «цела ад цела і кроў ад крыві». А варта толькі паслухаць самы гэны «заклік», каб канчальна пераканацца ў гэтым.

### ДА ЧАГО ЁН КЛІКАЎ?

Бальшыня бадай беларусоў ужо ня мела «шчасьця» чуць таго, пэўна-ж, «гістарычнага», як і ўсе яны, выступленьня ў радыё «вялікага бацькі народаў», якое адбылося 3-га ліпеня 1941 г., калі ў «таты» мінуў першы страх і першыя непрыемнасьці ад, кажучы іхнымі ўлюбёнымі слоўцамі, а нашымі знанымі «народнымі вобразамі», — таго «гістарычнага» ці «легендарнага» меху, што прадаўся ... Дык ня шкодзіць хоць цяпер прыслухацца хай-бы сабе да тае мясьціны гэтага выступленьня, якая і становіць той успамінаны «заклік», мясьціны, у часе якой моцна яшчэ, відаць, калацілася люлька ў зубах у «бацькі», распаўсюджваючы вакол смярод і рассыпаючы іскры для пазьнейшага «зыркага полымя». Вось яна, гэтая мясьціна, у якой запраўды, як кажуць, «увесь закон і пракокі»: «У занятых ворагам раёнах трэба ствараць партызанскія аддзелы, конныя і пешыя, стварыць дывэрсійныя групы для змаганьня з часткамі ворагавай арміі, для распальваньня партызанскае вайны ўсюль і ўсюды, для ўзрываньня мастоў, дарог, псаваньня тэлефоннае і тэлеграфнае сувязі, падпалу лясоў*), складзішчаў, абозаў. У захопленах раёнах ствараць нязносныя абставіны для ворага і ўсіх ягоных памагачых, перасьледваць і зьнішчаць іх, дзе ні ступні, зрываць усе іхныя мерапрыёмствы» («Известия» № 159 — 3. 7. 1941 г.).

Нават ужо самым сваім стылем, гэтым імпэратыўным «трэба» — як мала падобны гэты цкаваны заклён да «заклікy да народу», як разьліва нагадвае ён просты загад пазьнейшага «вялікага маршала Савецкага Саюзу» сваім прыслужнікам і нявольнікам. Дзеля паўніні малюнку можна нават параўнаць гэты зварот да «братоў» і сёстраў (гэтак пачынаецца «выступленьне») да пазьнейшых афіцыйных загадаў «народнага камісара абароны», падпісаных тэй нашай «вялікай» і «гістарычнай» мянушкай. Вось — із загаду № 130 да 1-га траўня 1942 г., пункт 5: «Партызанам і партызанкам — узмоцніць партызанскую вайну ў тыле нямецкіх захопнікаў, разбураць сродкі сувязі й транспарту ворага, зьнішчаць штабы й тэхніку ворага, не шкадаваць патронаў супроць прыгнятальнікаў нашае радзімы!» («Правда», № 121 — 1. 5. 1942 г.), або — з загаду — 345 да 25-х угодкаў кастрычніцкае рэвалюцыі, 7. 11. 1942 г., пункт 3: «Разьдзьмуць полымя ўсенароднага партызанскага руху ў тыле ворага, разбураць ворагавыя тылы, вынішчаць ня-

---

*) Відаць, як ня ўвесь страх яшчэ мінуў быў у беднага «бацькі»: не падумаў адразу, дзе-ш будуць хавацца ягоныя «дывэрсыны», калі лясы — свой найлепшы прытулак — папаляць. Таму гэты пункт, здаецца, ці не застаўся без выкананьня.

